# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 6 (1604) ГОД XXXII БЕЛАСТОК, 8 ЛЮТАГА 1987 г. ЦАНА 12 зл.




Спяваюць „Васілёчкі".

## ШТО ЎДАЛОСЯ, ШТО НЕ ЎДАЛОСЯ

Напомнім: крыху больш як год назад было выбрана праўленне раённага аддзела Беларускага таварыства ў Бельску, старшынёй якога стаў Васіль Ляшчынскі, дырэктар школы № 3.

У пачатку новага года мы папрасілі старшыню расказаць аб пройдзеным шляху, аб працы і здабытым вопыце. Старшыня незадаволены, што не ўсё ўдалося. Найперш аднак — **што ўдалося.**

Беларусы Бельска ўключыліся ў „Дні Бельска" — імпрэзу, якую горад арганізуе кожны год летняй парой. Адзін дзень „Дзён" быў у мінулым годзе „Днём беларускім". Так ужо будзе і ў далейшым. Незадавальненне старшыні і актыву ад таго, што гэты „Дзень" „меў слабы водгук у грамадстве горада". У гэты дзень аддзел арганізаваў канцэрт гайнаўскага хору ў бельскім парку. Прыйшло малавата гледачоў. Як бы не ўсе заўважылі нас, кажа старшыня. Прычына можа быць і такая, што была гэта вольная субота, стаяў цёплы сонечны дзень — і многія гараджане выехалі з горада.

Быў арганізаваны конкурс на святочны і абрадавы пірог. Сем вёсак прыняло ўдзел. Жанчыны прывезлі адтуль у беларускі клуб у Бельску свае пірагі і каравai. Была буслава лапа (у народнай традыцыі пяклася на Благавешчанне), вясельныя каравai. У клубе адбылася выстаўка гэтых вырабаў. Арганізатары хацелі праз такі конкурс паказаць, якое багацце яшчэ жыве ў народзе, якія традыцыі, што жывуць яшчэ, людзі, якія ўмеюць такое пячы. Чытач прабачыць аўтару, што і сваё слова тут скажа. Такі конкурс, памойму, адзін з цікавейшых конкурсаў, прыдуманых нашымі дзеячамі. Ён варты шырокага наследавання. Нам трэба адрадзіць гісторыю каравайніц і вярнуць у нашу мову назву каравай, замест дзівачнага „цяста". У маю маладосць цеста маці мясіла свінням, а людзям пякліся пірагі, палюшкі (з цукрам і цынамонам, з яблыкамі, з макам, са шчаўем, з сырам), булкі, пранікі, сухарыкі, а пры асаблівых урачыстасцях, напрыклад, вяселле — каравai.

Вяртаемся да Бельска. Быў арганізаваны і конкурс малявання для пачатковых школ усяго раёна, прыгожа названы „Мой родны кут". Вельмі ж незадаволены старшыня Ляшчынскі яго вынікамі — мала школ прыняло ўдзел. „Як упрасіць, як прымусіць, — турбуецца старшыня, — настаўнікаў пластычнага выхавання ў школах, каб рыхтавалі сваіх вучняў да такога конкурсу?" Вельмі прыдалася б тут падтрымка Беластоцкай куратарыі. То ж у Польшчы арганізуецца дзесяткі конкурсаў на малюнак, чаму ж не быць такому конкурсу сярод нашых дзяцей! У працы з людзьмі трэба ж развіваць новыя формы кантактаў, якія маюць свае крыніцы ў нашай зямлі.

Добра прайшоў цэнтральны агляд беларускай песні для школьнікаў, які арганізавалі ў Бельску. Усе спевакі бельскага раёна выступалі ў суправаджэнні спецыяльнага музычнага калектыву, падрыхтаванага Бельскім домам культуры з удзелам гітарыстаў, перкусістаў, а не аднаго толькі акардэона.

Вельмі добра, што гарадскія ўлады і начальнік горада асабіста заангажаваліся і ўключылі Бельскі раённы аддзел БГКТ у апрацоўку праграмы культурнай дзейнасці на гады 1986—1990. Цяпер Бельскі аддзел БГКТ — раўнапраўны партнёр культурнай дзейнасці ва ўсім раёне.

Бельскі аддзел разгарнуў шырокую працу па збіранні экспанатаў для будучага беларускага музея. Ужо больш як 80 экспа-

(Працяг на стар. 4)

## Зрэпарцёрскіх ЗАПІСАК

### У ВЫШКАХ

Пад канец 1986 года давялося мне пабываць у мястэчку Вышкі. Першы раз у сваім даўгаватым рэпарцёрскім жыцці.

Дырэктар Ян Пракапюк запрасіў нас, каб пагрэцца гарачым чаем, а заадно і пагутарыць аб яго працы і жыцці ў Вышках. Сам ён родам з вёскі Локніца, што з другога, усходняга боку Бельска. Пасля пачатковай школы Янка вучыўся ў Супраслі, у тамашнім сельскагаспадарчым тэхнікуме, а затым, ужо працуючы, закончыў студыю па кіраванню сельскагаспадарчымі прадпрыемствамі. Гэта дало падставу для яго грамадскага павышэння. 1 ліпеня 1975 года Ян Пракапюк атрымаў назначэнне на пасаду дырэктара спулдзельні сельскагаспадарчых гурткоў у Вышках. Тады якраз арганізавалі гэтую спулдзельню, перад ёй ставіліся дзве асноўныя мэты: абяспечыць патрэбы індывідуальных гаспадароў на тэхніку і загаспадарыць пакінутую дзяржаўную зямлю ды наладзіць шырокамаштабную гадоўлю жывёлы, у першую чаргу — свіней.

*

— 56 вёсак, каля 14 тысяч гектараў зямельных угоддзяў, — Ян Пракапюк успамінае пачаткі сваёй працы ў Вышках. — Як задаволіць патрэбы сялян, як дагадзіць уладам, якія нават і слухаць не хацелі аб нейкіх цяжкасцях і няўдачах. Прымалі да ведама толькі аптымістычныя звесткі.

Тады, у палове 70-х гадоў, не ў кожнай вёсцы ў каго-небудзь быў уласны трактар. У Вышкаўскай спулдзельні сельскагаспадарчых гурткоў было іх 63. Калі наставаў сезон неадкладных работ, сяляне цэлымі натоўпамі проста абсядалі пункты механізаваных паслуг. Зразумела, што кожны хацеў, каб у яго найперш заараць, скасіць, выжаць... Узнікалі канфлікты, сыпаліся скаргі. Адным словам, звычайнае жыццё з яго звычайнымі і бурлівымі здарэннямі...

— Цяпер кожная спулдзельня сельскагаспадарчых гурткоў, — сцвярджае дырэктар, — можа разлічваць толькі на ўласныя сілы. Ад канчатковых эканамічных вынікаў, ад нашай гаспадарлівасці залежыць лёс усяго калектыву спулдзельні, а за-

(Працяг на стар. 4)




## АБ УЗБАГАЧЭННІ (1)

Часта гаворыцца аб Японіі, што яе спецыфіка праяўляецца ў выключным багацці дзяржавы і параўнаўчым убостве грамадзян. Думаю, аб Польшчы можна сказаць супрацьлеглае: бедная дзяржава — багатыя грамадзяне. Ніхто з тых людзей, якія кіруюцца аб'ектывізмам, не скажа, што ў Польшчы няма магчымасці зарабіць і, калі не цудоўна, то прынамсі нядрэнна жыць. Варта падкрэсліць і тое, што большасць грамадства выкарыстоўвае шанцы і добра ўладкоўваецца ў жыцці. Гляджу не на сваё пакаленне, якое працуе ўжо дзесяткі гадоў і, зразумела, назбірала за гэты перыяд большую або меншую маёмасць. Цешыць найбольш тое, што маладыя людзі, якія пакінулі мае родныя Бандары і жывуць у гарадах, усе ўладкаваліся. Многія з іх маюць ужо ўласныя машыны, што калісьці было толькі фантастычнай марай. А колькі ж добрага можна сказаць аб многіх маладых гаспадарах, якія засталіся ў вёсках! Маюць машыны, мэблю, вялікія запасы грошай. Праўда, працуюць многа, але як жа радасна, што (не так, як іх бацькі і дзеды, якія працавалі намнога цяжэй і не мелі нічога) у іх ёсць усё неабходнае для жыцця.

Зразумела, што мы, прадстаўнікі старэйшага пакалення, будзем заўсёды ўздыхаць да такіх рэквізітаў мінулага, як цэп, серп, жорны, калаўрот, кросны, але якое ж шчасце, што яны ўжо, мабыць, ніколі не вернуцца ў сялянскія хаты, гаспадарчыя будынкі. Не так даўно мне сказаў адзін малады селянін, які вядзе гаспадарку на высокім узроўні, што паводле яго падлікаў, ён сёння валодае большымі грашовымі запасамі, чым калісьці валодалі ўсе гаспадары з яго вёскі, разам узятыя. І думаю, што гэта праўда. Калі ўспомню старую галечу, капцілкі або нават асвятленне хат пры дапамозе дранак ці лучыны, вечна мокрыя лапці, пастаянную каросту на руках дзяцей, саматканыя падзёртыя світачкі, незабеленыя супы, таўканіцы, „босыя квасы" і параўнаю з сённяшнімі новымі дамамі і выглядам дзяцей, іх вопраткай і іх харчаваннем, дык сэрца агортвае радасць. Калісьці вясковыя жанчыны ахвотна наймаліся да працы за сорак грошай у дзень, а кілаграм цукру каштаваў залатоўку. І таму цукру вёска не ела. Вялікая сям'я купляла, як правіла, два разы ў год, найчасцей перад Калядамі і Вялікаднем, па паўкілаграма. Давалі яго хворым або малым дзецям, завязваючы ў анучку. Называлі гэты прысмак соскамі або сусламі.

Зразумела, што працэс узбагачэння выступае не толькі ў нас, а наогул ва ўсім свеце. Аднак у многіх краінах, асабліва ў Афрыцы і Паўднёвай Амерыцы працэс гэты моцна замаруджаны.

**Не думаю, каб знайшоўся ў нашай краіне хаця б адзін чалавек з майго пакалення, які б не цешыўся з таго, што людзі жывуць цяпер лепш, чым жылі. Калі мяне агортвае жах, то толькі з той прычыны, што людзі, узбагачаючыся матэрыяльна, убажэюць духоўна. Што становяцца больш хітрымі, эгаістычнымі, менш гасціннымі. Думаю, што гэта датычыць усіх, у тым ліку і мяне. У кожнага з нас у жыцці ўсё болей рахунку і ўсё менш сэрца. Праўда, яшчэ на Беласточчыне ўтрымліваецца традыцыйная гасціннасць, але ўжо яна не такая, як была калісьці. Усё менш такіх людзей, аб якіх калісьці гаварылася, „што ён зніме сарочку", каб падзяліцца ёю з другімі.**

**Алесь Барскі**




## ТЭМПЫ РАЗВІЦЦЯ ЭКАНОМІКІ

На рэспубліканскім сходзе актыву, які адбыўся 10 студзеня, першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі М. Слюнькоў, між іншым, паведаміў аб тэмпах развіцця эканомікі Беларусі. Нацыянальны даход павялічыўся на 5,9 працэнта, аб'ём прамысловай вытворчасці — на 7. Прадукцыйнасць працы павялічылася ў прамысловасці — на 6,6, будаўніцтве — на 6 працэнтаў. Павысіліся і ўраджайнасць сельскагаспадарчых культур, і прадукцыйнасць жывёлы. Вытворчасць валавой прадукцыі ўзрасла на 6 працэнтаў. Выкананы планы нарыхтовак збожжа, бульбы, цукровых буракоў, агародніны, мяса, малака, яец, воўны. У мінулым годзе на 4 працэнты павялічыўся ўвод у дзеянне асноўных фондаў. Выкананы заданні па будаўніцтву жылых дамоў, дзіцячых дашкольных устаноў, школ, медыцынскіх устаноў. Справіліся з планамі работнікі чыгуначнага і аўтамабільнага транспарту, дзяржаўнага гандлю, бытавога абслугоўвання насельніцтва. Узмацнілася сацыяльная накіраванасць развіцця эканомікі. Павысіўся ўзровень народнага спажывання. Расшырыўся аб'ём платных паслуг.

## СЛАБА ЗМАГАЮЦЦА З П'ЯНСТВАМ

На чарговым пасяджэнні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР разгледжана пытанне аб рабоце праваахоўных органаў Брэсцкай вобласці па выкананню патрабаванняў заканадаўства аб узмацненні барацьбы супраць п'янства і алкагалізму. Адзначана, што праваахоўныя органы вобласці марудна перабудоўваюць сваю работу, не поўнасцю ажыццяўляюць ускладзеныя на іх паўнамоцтвы па прадухіленні і выкараненні п'янства, алкагалізму, самагонаварэння. У многіх працоўных калектывах не створана абстаноўка нецярпімасці да асоб, якія злоўжываюць алкаголем, праяўляецца беспрынцыповасць пры вырашэнні пытанняў аб іх адказнасці. Не забяспечваецца найстражэйшае выкананне патрабаванняў заканадаўства аб выкараненні ўжывання спіртных напіткаў непаўналетнімі. Не адбылося рэзкага зніжэння выпадкаў кіравання транспартнымі сродкамі ў стане ап'янення, а органы ўнутраных спраў праяўляюць нярэдка да такіх вадзіцеляў неапраўданы лібералізм. Выканкомы многіх саветаў народных дэпутатаў, органы пракуратуры не забяспечваюць кантроль за строгім і няўхільным выкананнем антыалкагольнага заканадаўства.

## ЮБІЛЕЙ ЭНЕРГАГІГАНТА

Чвэрць стагоддзя з дня ўводу ў дзеянне першага энергаблока магутнасцю 150 тысяч кілават адзначылі энергетыкі Бярозаўскай ДРЭС. Палескі энергагігант за гэтыя гады даў прамысловым прадпрыемствам, будоўлям, гарадам і вёскам 106 мільярдаў кілават-гадзін электраэнергіі. Сярод аднатыпных ДРЭС Савецкага Саюза станцыя лічыцца адной з самых эканамічных.

## КУПАЛАЎСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

Гэта унікальная кніга выйшла ў выдавецтве „Беларуская савецкая энцыклапедыя". У ёй 3.095 артыкулаў, якія асвятляюць усё, што звязана з імем вялікага песняра. Энцыклапедыя змяшчае мноства новых або маловядомых чытачу дакументаў і матэрыялаў. Багата ілюстраванае выданне расказвае не толькі аб жыццёвым і творчым шляху паэта, але і аб увасабленні купалаўскай тэмы ў выяўленчым мастацтве, музыцы, тэатры, кіно. Сабрана таксама падрабязная інфармацыя аб родных і блізкіх Я. Купалы, аб партыйных і дзяржаўных дзеячах, вучоных, пісьменніках і крытыках, з якімі паэт працаваў.

## МОДНІЦАМ

Прыгожымі плашчамі, курткамі і паліто парадавалі пакупнікоў работнікі Бабруйскай швейнай фабрыкі імя Дзяржынскага. Тут увайшла ў строй і выдала першую прадукцыю вытворчасць па выпуску асабліва модных вырабаў. Яе абсталяванне ўкамплектавана спецыяльнымі электроннымі блокамі, якія аўтаматызавалі ўсе працаёмкія аперацыі. Гэта дазваляе аператыўна, з улікам попыту мяняць асартымент вырабаў. У бягучым годзе фабрыка ўтрая павялічыць выпуск адзення, якое карыстаецца павышаным попытам.

## МУЗЫКА СТАГОДДЗЯЎ

Папулярнымі сталі ў гродзенцаў вечары старадаўняй музыкі, якія праходзяць у залах рэспубліканскага музея атэізму і гісторыі рэлігіі. Пад старажытнымі скляпеннямі былога базіліянскага манастыра гучалі ўжо творы вялікіх майстроў у выкананні ансамбляў старажытных інструментаў „Канчэнта" з Гродна і мінскага „Кантабіле", лаўрэата міжнароднага конкурсу скрыпачоў імя Паганіні А. Крамарава.

Ансамбль „Канчэнта", у якім іграюць выкладчыкі Гродзенскага музычнага вучылішча, правёў у залах музея цыкл вечароў з твораў Вівальдзі, Бакерыні, Тэлемана. Шырока ў канцэртах гродзенцаў прадстаўлены і рускія кампазітары — Бартнянскі, Фамін, Пашкевіч.




## НЕБЯСПЕЧНЫ КУРС

25 студзеня адбыліся выбары ў бундэстаг. З перадвыбарчых плакатаў бадзёра ўсміхаўся канцлер Г. Коль, заклік абвяшчаў: „Так трымаць!"

Які ж гэта курс? Баланс чатырохгадовага кіравання хрысціянска-ліберальнай кааліцыі даволі змрочны.

Ніжэй узроўню беднасці ў ФРГ жывуць 1,3 млн. чалавек, а сто тысяч галадаюць і жывуць ніжэй узроўню „экстрэмальнай беднасці" — гавораць адны. Паводле іншых, уключаючы „скрытыя рэзервы", узровень беспрацоўя перавышае ў ФРГ 3 млн. чалавек.

Калі дадаць да іх яшчэ пенсіянераў і інвалідаў, якія атрымліваюць нізкія пенсіі і дапамогі, то ўсё стане на свае месцы.

Перспектывы таксама не радуюць. У жніўні 1986 года доля беспрацоўных у краіне зноў павысілася да 8,7 працэнта ў сярэднім, застаючыся значна больш высокай у застойна-крызісных раёнах — 13,2 працэнта ў Саары, 14,9 працэнта ў Брэмене, 12,8 працэнта ў Гамбургу. У той жа час чакаюцца новыя звальненні: у металургічнай прамысловасці напрыклад, да 1988 года ў парадку далейшай „рацыяналізацыі і аздараўлення" маркуецца звольніць яшчэ 15 тысяч рабочых.

Кааліцыя нясе адказнасць за крайне цяжкую экалагічную сітуацыю: кіслотныя дажджы, масавая гібель лясоў, забруджанне рэк. Экалагічныя праблемы пераплятаюцца тут з сацыяльнымі, а „сацыяльная дзяржава" не знаходзіць грошай на вырашэнні ні тых, ні другіх.

Унутраная сітуацыя вельмі цесна пераплятаецца з ваеннай палітыкай ХДС/ХСС. На ваенныя расходы ў 1987 годзе выдадзена сума 51,3 млд. марак. Гэта рэкордны ваенны бюджэт, які гняце ўсе сацыяльныя расходы. Тут і крыецца галоўная прычына росту падаткаў, павышэння цэн, захавання пастаяннай арміі беспрацоўных. Урад ФРГ стаў самым старанным прапагандыстам і саўдзельнікам амерыканскага плана „зорных войнаў", які дае пэўныя выгады манаполіям ФРГ, але нясе бясспрэчна сур'ёзную пагрозу далейшай гонкі ўзбраенняў, пераносу яе ў космас.

Урад ФРГ спаўзае на ўсё больш правыя пазіцыі, ігнаруючы важнейшыя для краіны пытанні бяспекі, праследуючы левыя сілы, усё больш цынічна дэманструючы, што інтарэсы буйнейшых канцэрнаў для яго стаяць на першым месцы.

**У.Я.**

# КАЛЯДНІКІ Ў НАРВЕ

Радасна і міла правялі мы Шчодры вечар на аглядзе калядных калектываў у Нарве. Арганізаваў яго мясцовы ГОК, якім кіруе Ірэна Шастай, пры вялікай дапамозе а. Андрэя Якімюка.

Гмінны агляд калядных груп у Нарве мае ўжо традыцыю, якую тутэйшыя культурна-выхаваўчыя дзеячы хочуць рэгулярна год у год прадаўжаць. І за гэта трэба ім сказаць вялікае дзякуй. Праўда, па віне зімы не маглі дабрацца на агляд каляднікі з Тыневічаў Вялікіх, Трасцянкі, Адрынок, якія ў мінулагоднім аглядзе прымалі ўдзел. Затое Нарва-мястэчка выставіла дзве калядныя групы, абедзве падрыхтаваныя бацюшкам. Малады ж каляднікі з Гарадзіска (вучні VII—VIII класаў школы ў Барысаўцы) выйшлі на шашу і там упрасіліся на папутныя машыны, каб дабрацца ў Нарву. Яны не спалохаліся марозу. Каляднікам жа заўсёды спадарожнічае мароз, снег, завірухі і... ззянне зорак.

Кожная з груп, выступаючых у Нарве, спявала па чатыры калядкі і гэтак сабраныя нарвяне, макаўляне, гайдукаўшчане выслухалі канцэрт з 12-ці песень, з якіх палову я пачула першы раз. Бацюшка ў заключным слове выступіў па-беларуску ад імя журы і сказаў: „Усе выступаючыя заслугоўваюць на словы падзякі і пашаны за тое, што прадаўжаюць мастацтва і традыцыі, якія жылі і жывуць у нашых сёлах ад вякоў. Калядкі — гэта форма і духоўнай і народнай культуры, тут усё цесна пераплецена адно з другім. Няхай і надалей жыве гэтая форма нашай культуры ў сэрцах нашага народа!“. Усе ўдзельнікі агляду атрымалі грампласцінкі.

Яшчэ пра калядкі, спяваныя ў Нарве на аглядзе. Быў іх багаты выбар, амаль не паўтараліся. Усе, як і прынята ў народзе, услаўлялі ражджэственскую радасць, аб чым і заявіў дзявочы квартэт з Нарвы ва ўступнай сваёй песні „Добры вечар табе, гаспадару, радуйся!“.



Калядная група з багатай „звяздой“ з Гарадзіска.



Частка парафіяльнага дзіцячага хору выступіла як калядная група. Дырыжор — а. Андрэй Якімюк.

Калядкі — гэта невычэрпная крыніца самых узнёслых, самых моцных пачуццяў, якіх у нашым зматэрыялізаваным свеце ўсё менш і менш у жыцці. Таму такое каштоўнае тое каляднае спяванне, праз якое чалавецтва — нашы продкі з вякоў гавораць да нас, напамінаючы нам адвечныя праўды жыцця. Гэтыя песні становяцца ў абароне жыцця і міру супраць цёмных сіл знішчэння: „Ірад зласлівы з таго засмуціўся, што цар прадвечны на свет нарадзіўся“. Расказваюць аб радасці маці, аб яе невычэрпнай любові да свайго сына („Да грудзей прыжала, ў уста цалавала“), а сэрца яе было перапоўнена верай, што яе сын патрэбны будзе людзям, што ён адкрые ім новую, лепшую дарогу жыцця, дасць надзею: „Сыне мой едыны, ты ні сірата, твой айцец на небе адкрыў варата“.

У халоднай, хоць ад печкі біў жар, зале нарвянскага ГОКа зрабілася цёпла ад шчырых маладых галасоў, якія з такім адданнем прадаўжаюць жывыя традыцыі продкаў і творча іх узбагачаюць.

**Вера Леўчук**
Фота Я. Чэрнякевіч



Вельмі чысты музычна дзявочы квартэт з Нарвы.

**У 150 ГАДАВІНУ З ДНЯ ГІБЕЛІ А. С. ПУШКІНА (10 ЛЮТАГА)**

# ПУШКІН І НАРОД

Перш чым гаварыць аб матывах народнай творчасці ў Пушкіна, неабходна ўявіць сабе вялікі ўплыў на яго французскага выхавання. Выхаванне Пушкіна і ягонай сястры Олі было даручана французам-гувернёрам. Хатняе навучанне дзяцей, за выключэннем рускай мовы і закона божага, вялося на французскай мове. У бібліятэцы бацькі Пушкіна знаходзілася выключна французская літаратура. Пушкін пранікаў у кабінет бацькі і там без разбору, цэлымі начамі чытаў, што яму траплялася пад рукі. У 11-гадовым узросце Пушкін ужо добра ведаў французскую літаратуру. Свае першыя вершы ён піша на французскай мове і толькі ў 1812 г. упершыню складае верш на рускай мове „О Дэлія дарагая“.

Таварышы Пушкіна сцвярджалі, што ў ліцэі ён упарта вывучаў рускае пісьменства, французскую мову і гісторыю. Але вядома, што асаблівых ведаў па рускай мове Пушкін у ліцэі не атрымаў. Гэта прымусіла яго пасля ліцэя вывучаць самастойна рускі сінтаксіс і рускую літаратурную мову.

У 1820 г. за свабодалюбівыя вершы самаўладства саслала яго на поўдзень. Тут і пачынаецца яго сур'ёзная праца над сабой. Адарваны ад шумлівага жыцця Пецярбурга, ён запаўняе свой час чытаннем гістарычных і этнаграфічных публікацый. З захапленнем чытае казкі, якія прыслаў яму Раеўскі. Праяўляе вялікую цікавасць да народнай творчасці, да асобы С. Разіна аб якім яму давялося чуць з песень казакоў у паўднёвых стэпах. Народны дух гэтых песень, казак і павер'яў захапляе паэта. У сваіх лістах з Кішынёва Пушкін просіць свайго брата пісаць яму на рускай мове. У гэты час Пушкін задумваецца над лёсам рускага пісьменства, займаецца даследаваннямі, робіць шэраг заўваг па гэтым пытанні. У артыкуле „Аб прычынах, запаволіўшых развіццё нашай славеснасці“ Пушкін піша: „Прычынамі, затрымаўшымі ход нашай славеснасці, звычайна лічыцца: І-ае, агульнае ўжыванне французскай мовы і пагардлівыя адносіны да рускай. Усе нашы пісьменнікі на гэта скардзіліся, але хто вінаваты, як не яны самі? Выключаючы тых, якія займаюцца вершамі, руская мова ні для каго яшчэ не можа быць досыць прывабнай...

Вучонасць, палітыка і філасофія яшчэ па-руску не выказалася. Проза наша яшчэ так мала апрацавана, што нават у простай перапісцы мы вымушаны стварыць звароты для выказання паняццяў самых звычайных, так што мы з-за ляноты сваёй ахвотней гаворым на мове чужой, хоць механічныя формы даўно гатовы і ўсім вядомы“.

У канцы 20-х, пачатку 30-х гадоў Пушкін карыстаецца выключна рускай мовай. Цікавасць да вывучэння рускай мовы не пакідала яго на працягу ўсяго яго жыцця. Блізкая сувязь з народамі поўдня Расіі, назіранні за іх жыццём і цікавасць да „простанароднай“ мовы не маглі не даць вялікіх станоўчых вынікаў. Пушкін захапляецца народнай творчасцю. Ён вывучае прымаўкі, прыказкі і нярэдка ў лістах да прыяцеляў карыстаецца імі.

Будучы ў Пскове, Пушкін амаль поўнасцю аддаваў свой час вывучэнню народнага жыцця. „Ён шукаў, — гаворыць Чарнышэўскі, — сродкі для адшукання жывой народнай мовы ў самым яе вытоку: хадзіў па базарах, цёрся, што называецца, паміж людзьмі, і вельмі паважаныя людзі горада бачылі яго пераапранутым у мяшчанскую вопратку, у якой ён нават раз з'явіўся ў адзін з пачэсных дамоў Пскова“.

Цікавасць да народнай творчасці ў Пушкіна дыктавалася жаданнем знайсці новыя формы і сродкі для стварэння высокамастацкай літаратуры жа-

(Працяг на стар. 6)




## ВАСІЛЁК БЕЛАРУСКІ

У маі бягучага года міне семідзесятая гадавіна смерці Максіма Багдановіча. І як добра, што А. Баршчэўскі ў цыкле артыкулаў („Ніва“ № 49, 50 і 51 з 1986 г.) падаў да ведама чытачоў цікавы біяграфічны нарыс пра гэтага найвыдатнейшага беларускага паэта перыяду „Нашай нівы“. Так як у артыкуле Баршчэўскага сказана, што ўсякія ацэнкі і меркаванні аб творчасці могуць быць выключна суб'ектыўныя, так і мая ацэнка — найвыдатнейшы — выключна суб'ектыўная.

З невялікай колькасцю твораў М. Багдановіча я сустрэлася ўжо ў саракавых гадах. Калі ўпершыню пачала я знаёміцца з беларускай літаратурай, гэта былі такія аўтары, як Янка Купала, Якуб Колас, Змітрок Бядуля. Кніжкі тыя брала я ў сваёй знаёмай, пані Соні Памяльніцкай — жанчыны вялікай асабістай культуры і глыбокіх ведаў пра ўсё беларускае. Перад вайною закончыла яна Беларускую гімназію ў Вільні. Я пачала захапляцца гэтай літаратурай. Аднойчы пані Соня дала мне сшытак вершаў, перапісаных уручную. Сказала пры гэтым: „Нікому я яго не даю, не расстаюся з ім, але табе дам прачытаць, бо бачу, што ты цікавішся гэтым“. На вокладцы было напісана: „Максім Багдановіч. Вершы са зборніка „Вянок“.

Перапісаны яны былі прыгожым почыркам, старанна, чыталіся лёгка.

Захапленне ад гэтых вершаў не пакідала мяне доўгі час. Некаторыя з іх я перапісала і доўга хавала, як нейкі скарб.

Набліжаўся фронт. Савецкая Армія гнала фашыстаў. Людзі, хто толькі змог, уцякалі з Беластока. Прыйшла пані Соня і забрала той сшытак. Мы развіталіся і яна, бачачы мой смутак (шкада было расставацца з ёю), сказала, што калі пераваліцца фронт і мы астанемся жывыя, то яшчэ сустрэнемся і тады расскажа мне пра Максіма Багдановіча і яшчэ пазычыць гэты сшытак. На жаль, мы больш ніколі не ўбачыліся. Я пасля вайны на нейкі час вярнулася ў Белавежу, а куды лёс кінуў Соню Памяльніцкую — я не ведаю.

Пасля, калі я ўжо свядома шукала творы Багдановіча і мне ўдавалася натрапіць на іх — заўсёды хвалявалі яны мяне і пакідалі вялікае ўражанне. Магчыма, што захаплялі яны і чыстай лірыкай, з якою я не сустрэлася раней у беларускай літаратуры.

У творах Багдановіча ёсць нейкая таямнічая сіла, якая палоніць чытачоў. Ён жа і сам, як відаць з гэтага біяграфічнага нарыса, быў неверагоднай загадкай таго, дзе і як могуць заквітнець беларускія васількі, нават не маючы спрыяльнай глебы.

Дзякую А. Баршчэўскаму за гэты цікавы нарыс — мне дасюль усё не хапала біяграфічных інфармацый пра майго любімага паэта.

**А. Аніпэўская**

СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ



*Прадшколле на вуліцы Свярчэўскага ў Сямяцічах. Мал. Уладзіслава Петрука.*

## ШТО ЎДАЛОСЯ, ШТО НЕ ЎДАЛОСЯ

(Працяг са стар. 1)

натаў ляжыць у шафках у школе № 3 і крыху ў беларускім клубе. Сярод экспанатаў найбольш народнай вопраткі. Усе экспанаты перадаваліся людзьмі бясплатна. Прыносілі іх дзеці, бацькі, розныя людзі. Найбольш сабрала Тамара Русачык — візітатар і методык беларускай мовы Беластоцкай кураторыі.

Васіль Ляшчынскі вельмі трапна заўважае: „У „Ніве“ рэгулярна падаецца, хто колькі ўплаціў на музей. Мы лічым, што трэба было б таксама падаваць, хто, адкуль і які экспанат падараваў музею, гэта ж больш, чым сто злотых“.

Экспанаты збіраюцца і якраз найбольш іх знаходзіцца ў школах. Час, каб імі заняліся сур'ёзна. Трэба апісаць, скласіфікаваць, каб ведаць, што ўжо маем. На думку Бельскага аддзела, збору і падрыхтоўцы экспанатаў трэба абавязкова прысвяціць больш увагі.

**Што не ўдалося.** Не ўдалося арганізаваць агляд школьных хораў у Бельску з усяе Беласточчыны. У задуме гэта меў быць такі школьны фестываль беларускай песні. Хоры падрыхтавалі б дзве-тры беларускія песні і без элімінацый прыехалі б на агляд у Бельск. Ёсць на Беласточчыне добрыя школьныя хоры. Старшыня Ляшчынскі называе хоры ў Старым Ляўкове, у Сямяцічах — школа № 2, тры хоры ў беластоцкіх пачатковых школах, у Дуброве, у Чорнай-Беластоцкай.

Не ўдалося актывізаваць актыў на вёсцы, хоць і сходы рабіліся, і бельскія дзеячы ездзілі па вёсках. Моладзі на вёсках мала, а старэйшыя хацелі б паслухаць, паглядзець — і на тым канец. Сяргей Лукашук са сваімі „Васілёчкамі“ даваў некаторым вёскам магчымасць паслухаць беларускі канцэрт. Але ж у „Васілёчкаў“ магчымасці вельмі абмежаваныя. І чарговы раз людзі ўспамінаюць „Лявоніху“ якая прыязджала, спявала, давала людзям радасць. Кажуць: такі калектыў нам вельмі і вельмі патрэбны як для распаўсюджвання нашай песні, так і для актывізацыі дзейнасці ўвогуле.

**Вера Леўчук**




(Працяг са стар. 1)

тым і лёс сельскай гаспадаркі на тэрыторыі нашай гміны.

Што ж, такія правілы гаспадарчай рэформы. Ведаю, што ў гэтай свабоднай гульні Вышкаўскі СКР спраўляецца выдатна, займаючы адно з першых месц у ваяводстве. Яго хвалілі на мінулагодніх ваяводскіх дажынках. Для прыкладу, тутэйшы трактарыст Яўгеній Рудчук у спаборніцтве па абслугоўванню сялян у час жніва заваяваў першае месца ў гміне і ў ваяводстве ды апынуўся на другім месцы сярод трактарыстаў усёй Польшчы. На трактары са снопавязалкай працаваў ён у сялян у мінулым сезоне 266 гадзін. А сярэдні паказчык для ўсяго ваяводства складае ледзь 56 гадзін працы на адну снопавязалку. Нават у Вышкаўскім эскаэры, калі палічыць разам вынікі ўсіх трактарыстаў, было гэтых гадзін намнога менш, бо толькі 117 на адну снопавязалку. Гэта Вышкам давала трэцяе месца ў ваяводстве. Першае (136 гадзін працы на снопавязалцы) заваявала СКР у Сухаволі. А тут — у Яўгеня Рудчука — аж 266 гадзін! Ці не скамбінаваў?

— Што вы! — абураецца дырэктар. — Гэта чалавек з залатымі рукамі. Трактар для яго не мае ніякіх таямніц. Каб толькі былі адпаведныя запасныя часткі, дык ён усё сам зробіць. Не мусіць траціць часу на рамонт у полі.

Аднак палявыя паслугі, значыць, гэтае звычайнае аранне, сяўба, касьба і інш., цяпер ужо з'яўляюцца для СКРаў мала заманлівым бізнесам. Ды і запатрабаванне на такія паслугі значна зменшылася. Сяляне абзавяліся ўласнай тэхнікай. У Вышкаўскай гміне канца мінулага года ў прыватным уладанні знаходзілася ўжо 600 трактароў. Значыць, адзін трактар прыпадае тут на 23—24 гектары зямельных угоддзяў. Насычанасць тэхнікай зусім дастатковая. СКРу давялося абмежаваць свой трактарны парк да 30 штук машын.

— Жыццё і суровыя патрабаванні гаспадарчай рэформы, — кажа дырэктар, — прымусілі нас прыстасавацца да новых умоў. Калі паслугі, дык такія, якіх не ў сілах абяспечыць сам селянін, значыць, усялякія апырскванні рознымі хімікатамі, да якіх трэба мець прывучаных людзей і спецыяльныя прылады. Затым гэта паслугі па рамонту сельскагаспадарчай тэхнікі, продаж паліва, а таксама кааперацыя з прадпрыемствамі па вытворчасці болей простых дэталяў...

Доўга яшчэ дырэктар Ян Пракапюк пералічваў усё тое, што яны робяць, каб іх рабочыя добра зарабілі і тутэйшыя людзі былі задаволены іх дзейнасцю. У рамках гэтай кааперацыі ў СКРаўскай майстэрні іх токары пачалі тачыць нейкія валкі для канвееpаў, можна тут за 60—70 тысяч злотых заказаць бляшаны гараж для аўтамабіля, жалезную агароджу для свайго панадворка, крытыя паўстанкі для ПКСу, якія ўжо стаяць, між іншым, у вёсках Буйнова, Верпэхі і Пульшы. У Вышках гэтакі прыпынак ПКС працаўнікі Вышкаўскага СКР выканалі ў грамадскім пачыне.

Калі спатрэбіцца камусьці будаваць дом або хлеў ці нейкі іншы гаспадарчы будынак, дык з заказам ён можа звярнуцца да дырэктара Яна Пракапюка. СКР, якім ён кіруе, можа нават прапанаваць уласныя будаўнічыя матэрыялы. Брыгада будаўнікоў гэтага ж СКРу мае ўжо даволі багаты вопыт. Яе рабочых сустрэў я, для прыкладу, на пабудове Вясковага дома пенсіянераў у Чарэўках. У гэтым годзе будуць яны будаваць, калі дазволіць пагода, вялікую школу ў Вышках.

А яшчэ гадоўля — адкорм свіней — клетачнай сістэмай у два паверхі, клетка над клеткай. Калісьці іх да гэтага прымусілі. Дык дырэктар Ян Пракапюк купіў у гаспадара прасторную клуню і яго рабочыя прыстасавалі яе да патрэб свінагадоўлі. І так ужо асталося. Гадоўля вялікага прыбытку не дае, але СКР на сваё выходзіць, а дзяржава атрымоўвае кожны год 170 тон мяса.

*

Не змог я пра ўсё расказаць, аб чым даведаўся ад дырэктара Яна Пракапюка. Не ў тым аднак справа. Найважнейшае для мяне ёсць тое, што не пачуў я ад яго ані аднаго слова нараканняў на тутэйшых людзей.

**Віктар Рудчык**

## САКРАТ ЯНОВІЧ

# СКРОЎБА

Як у падобны выправунак такі дальні, гэтак і настала тым часам пара тая, якую Скроўба, не тое каб злюбліваў яе — лепей сказаць: вынослівеў са стыласцю ўсяцельнай (што ў крыніцу пляснуўшыся), перастаючы сам сабою быць жа; яксьці трупянеючы. Ніякай памоўцы ўжо між імі не адбывацца ж, адны выкрыкі ім заставаліся. І адзін, і другі смерці прадвызначыўшыся, падуладнымі ёй сталіся: хто каго ўпільнаваць мае, таму і дзеля памірання звычаіцца трэба ж.

„Яго пад зніштажэнне падводзячы, самога сябе я выратоўваю, — даўмеўся рыскунец. — Скончыцца калісьці маё выношванне тое авечак на зарэз, цэлае маё ваўкаванне, а як жа іначай, і — кабы найпазней! — урэшт такога захапачу я, які гэта мяне завядзе на сваіх жа плаху галавасецкую, што лепш ужо і будзе тады пад тапор варожніцкі шыю сваю падкладаць, бо і паслаўленне пойдзе па народзе ў Літве і Русі, а і помач сямейцы, калі мець яе саспею... Беднаму ўсё вецер у вочы, а багатыру чорт дзяцей калыша! Важнюху саззалачэш, кастуху да сябе тым больш усцягнеш, ведай. Шышка гэткая надзьмутая ўраз на змовы запрадажныя са спадарамі тваімі паважыцца не заікнуўшыся, і пусцяць ле, як ні ў чым не бывала, здраду яе сваю напамнажаць, а табе ж, у падзякванне за ўчын твой карысці нязвыклае, булаву свае расколюць напоцемку ў закавуллі меставым, каб сведкаю перашкодным ты не хадзіў па свеце, а яшчэ, ага, вінаватнікаў збою на табе пашукоўваць накажуць з замка дзеля прыліку перад людзьмі, цямі ты добранька. Цыган, значыць, звінаваціў, а каваля ўзялі ды павесілі за тое, гэ-гэ-гэ, — Скроўба пабыстрацеў, як бы хто-лень нагайіскам цераз патыліцу паласнуў яму або прысаку пад кашулю сыпануў на трыбухаціну і ніжэй. — Такое бяды са спайманцам маім: плоць ён альбо і калючка, кабы аж мазгі сушыць мне тутка было чым!“

— Давай, давай: тупай борзда, а то жыватом пашаруеш! — пагудваў узад, дзе мазаўшук поначніцы маяклівеў. — Ну!

А той, часам гыркаў яму:

— А пацалуй ты мяне!...

Чаго добрага, адзін аднаго на вілы падняў бы! Чакавекі, з якіх выпрападала згодлівасць ад узаемнае да сябе цікунаватасці. Дужацца ім толькі, скакаць да вы, зашчэмлівацца адзін на адным, насы сабе адкусваць, сярэдзіны пераломваць, каленямі дыхавіны ўдушваць, высалапляцца харкотна, канчацца... Не разлікі, у кожнага свае паводле змушонасці, стрымлівалі іх зараз разам, ні наймалое суполле, але ярмольства Скроўбавае, перамаганне безупыннае слабейшага мацавіцейшым ды богведама на як доўгую хвілечу ўпотым. Ветрагоніку ўздаверыцца цяпер — куды больш ласкі спазнацьмеш.

Вязень пры спатыкнунку валіўся, бы нейкі пень, часцей на прагалах, дзе па вачах галіны не секлі ды ісці раўней, таму і засонак у хадзьбе атуляе.

— Ударожыўся ён, вядома, але ж не на каня саджаць яго, на Ветрагоніка (якому зусім, дарэчы, усё роўна), а самому пешкі дуць, — буркаваў Скроўба.

Павальваўся чужанец штораз дзеравянней, падымаючыся неяк па-п'янаму, як бы нехта такі, што век звекаваць сабраўся, як адзін дзень згуляць, і вось асілкаваннем знявечыўся лішнім. „Каб ты мне тут дзе не выпрасціўся“, — патрывожыўся быў ён за маладзіка.

Чым бліжэй рабілася да тае Горадні, тым цяжэй ад знямогі. Яго ў трасцы ўжо кідае! Тады ж добра ёсць утлумачваць самому сабе, што болей даляў, як стаяў, і рана на тое, каб падраспрэгвацца...

Супольнасць лёсу путнага так жа перастала ядноўваць іх. І ўсё здарэнне ўяўлялася зараз несапраўдным ад уражання даўнасці яго.

„Ну як жа мне не ведаць таго, што ты, мазаўшанец, хаця і на зямлі нашай улоўлены, лічыш мяне валахачом разбойным, якога без уздрыгу рукі зарубаў бы, як ніц. Адумайся сам, чаго ж ты крыўдаваць на мяне можаш, калі я дом свой бараню гэтым, і іншых дамоў у краіне спакутаванай. І ёсць я такім, якім і трэба, каб быў! А і ты абараняеш сваіх, і разумець мне да самое шчырасці тое. Таму мы, ты і я, у становішчы абодвум нам спасланым, не ў змозе стацца да сябе не бязлітаснымі. У мяне права дазвольнага няма на спагаду сваю да цябе; наканавана мне думаць тутака за ўсіх, як і табе так жа ж. Не за сваё я асобніцкае на згіненне вяду цябе ж. Табе горш; ты засуджаны ўжо так менавіта, у крыві цела свайго маладзечнага выкупацца заўтра ж, на зары малітвы жахлівыя згаварыўшы. Не мінаваць таго і мне калісьці, як не заўтра, дык зазаўтра ці праз год, сказаў бы я табе гэта, але ты шчэ дурань на славеснасць узважную. Так, во, народы і змагаюцца людзямі свойнымі, а братка ты мой, адны — кабы жыць, іншыя — кабы нажыцца ад суседзяў альбо касцьці. І да чаго гэта ўсё дойдзе?...“

Пад вароцішчамі замка гарадзенскага Скроўбу досыць пастаяць давялося, пакуль стражба тая з паходнямі зыйшла з вышкі і адчыніла ўехаць яму. Папагрымаў ён і ў дзвярыну службы намесніскавае, каб гэную здабычу сваю мазавецкую, языка таго перадаць у склепы іхняе допытні, а сам, Ветрагоніка ў стайню завёўшы, дагледжваў жывіну сваю мілавальна і пішы каню не даў зразу, каб не ахваціўся гнедзенькі. Спаць жа мала-памалу заваліўся рыскун Скроўба ў сене, што за жолабам наастаронена.

Яму чамусьці не забываліся вочы візненца, якімі глядзеў ён, бы пад ваду апускаючыся невыратоўна, глыбей і далей, калі стражнікі піхалі яго ў цемень склепную.

З-за іх пасля не хапала яму духу купленае цяля рэзаць на мяса.

**Канец.**

## ПРА БЕЛАРУСКІЯ ПЕРАДАЧЫ

У выніку захадаў ГП БГКТ старшыня Ваяводскай рады ПРОН у Беластоку праф. д-р П. Борань звярнуўся да кіраўніцтва Польскага радыё і тэлебачання ў Варшаве з пастулатам разгледзець магчымасць павелічэння часу перадачы на беларускай мове па Беластоцкаму радыё.

У адказе намеснік старшыні Камітэта па справах радыё і тэлебачання Юзэф Крулікоўскі прыпомніў, што да 1981 г. час перадачы на беларускай мове з Беластока складаў усяго 15 мінут, а пасля на патрабаванні ГП БГКТ беларуская перадача была падвоена, яна ідзе 30 мін. і перадаецца ў самым лепшым часе — у суботу ад 18.00 да 18.30 гадз. Гэты факт з адабрэннем быў прыняты слухачамі і БГКТ. Аднак далейшае павелічэнне беларускай перадачы немагчыма, бо не павялічылася прынятая Нацыянальным грамадска-гаспадарчым планам на 1986—90 г.г. колькасць гадзін перадач Польскага радыё і тэлебачання.

Аднак, як мяркуе Ю. Крулікоўскі, гэта не абазначае, што не трэба ўзбагачаць і паглыбляць змест паўгадзіннай беларускай перадачы. Гэта магчыма пры больш актыўным удзеле ў гэтай справе дзеячоў БГКТ, яго гмінных аддзелаў з вядучым гэтую перадачу рэдактарам У. Праховічам.

Паглыбленне супрацоўніцтва якраз было ў мяне на ўвазе, калі я прадстаўляў нашыя БГКТ-оўскія пастулаты кіраўніцтву Беластоцкага радыёвяшчання. Прытым я падкрэсліваў неабходнасць прысвячаць таксама іншыя перадачы справам істотным для беларускага насельніцтва Беласточчыны. Ю. Крулікоўскі адзначыў, што няма ніякіх перашкод для гэтага, і кіраўніцтва Польскага радыё і тэлебачання адабрае кожны добры пачын у гэтай дзялянцы.

Здаецца мне, што мы як арганізацыя, і ўсе, хто займаецца мінулым і сучаснасцю беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы, недастаткова карыстаемся створанымі магчымасцямі.

**Я. Зенюк**

гацейшай літаратуры ніхто нічога не ведаў. У сваіх заўвагах да „Каўказскага нявольніка“ Пушкін гаворыць: „Шчаслівы клімат Грузіі не ўзнагароджвае сваёй прыгожай краіны за ўсе няшчасці, якія яна вечна пераносіць. Песні грузінскія прыемныя і ў большасці сумныя. Яны славяць мінуты ўдачаў каўказскай зброі, смерць нашых герояў — Бакуніна і Цыцыянава, здрады, забойствы, іншы раз каханне і асалоду“.

Пазней Пушкін знаёміцца непасрэдна з грузінскім мастацтвам у самай Грузіі. Па шляху ў Арзерум і назад ён чуў, вывучаў і запісаў шмат грузінскіх народных песень.

У час працы над „Гісторыяй пугачоўскага бунту“ (1833) Пушкін знаёміцца з жыццём і творчасцю калмыкаў, башкір, грузінаў і іншых усходніх народаў былой царскай Расіі. У выніку гэтага азнаямлення ў „Капітанскую дочку“ трапляе калмыцкая казка пра арла і крумкача, не кажучы ўжо аб вялікай колькасці прымавак і ўрыўкаў з песень.

Народнасць літаратурнай мовы Пушкіна варожа сустрэлі літаратурныя рэакцыянеры. Яны не пускалі ў літаратуру „простанародныя словы“, знаходзячы адзін выраз „бурлацкім“, другі „мужыцкім“, трэці „непрыемным для дамскіх вушэй“.

Пушкін паказвае канкрэтныя шляхі ў барацьбе з архаізмамі ў літаратуры 18 ст.: „Нам надакучылі правільнасць і дасканаласць класічнай старажытнасці і бледныя, аднастайныя спісы яе наследавальнікаў, стомлены густ патрабуе іншых мацнейшых адчуванняў і шукае іх у мутных, але кіпячых вытоках народнай творчасці“.

Асабліва моцна пранікае „простанародная“ стыхія ў мову Пушкіна ў канцы 20 г.г. У гэтым часе ў яго творчасці з'яўляюцца словы і выразы, якіх не прызнавала граматыка, якія не выкарыстоўваліся ў літаратурным ужытку: „харчевня“, „кнут“, „острог“, „захочем“, „завизжала“, „убрались“ (у сэнсе пайшлі), цэлыя сказы. „На лавку сел, потер глаза, зевнул“... „Плешивый лоб с досадою чесал“, „Молчи, пустая голова, слыхал я истину бывало: хоть лоб широк, да толку мало“ і г.д. Пушкін ведаў, што толькі тая літаратура з'яўляецца народнай, якая прыгожа, па-мастацку, праўдзіва і проста паказвае жыццё, якая даходзіць да шырокіх мас народу. Адсюль яго жаданне, каб творы пісаліся проста, зразумела, смела і коратка. У сваім артыкуле „Аб стылі“ ён рэзка выступае супроць тых пісак, якія пры паказе самых простых рэчаў завальваюць іх непатрэбным слоўным хламам. „Што сказаць пра нашых пісьменнікаў, якія, лічачы за нізасць гаварыць проста рэчы самыя звычайныя, думаюць ажывіць прозу дапаўненнямі і вялымі метафарамі! Гэтыя людзі ніколі не скажуць „дружба“, не дабавіўшы: „сіе свяшчэннае пачуццё, шляхетны пламень якога“ і інш. Трэба сказаць — раніцай, а яны пішуць: „ледзь толькі першыя праменні ўзыходзячага сонца азарылі ўсходнія ўскраіны блакітнага неба. Як гэта ўсё нова і свежа“. Хіба яно лепш таму толькі, што даўжэй. Дакладнасць і кароткасць — вось першая вартасць прозы“. Але не толькі ў гэтым сэнсе Пушкін разумеў народнасць. Ён арганічна звязваў мову твора з яго зместам. Разам з „простанароднай“ мовай у яго творчасці з'яўляюцца і прадстаўнікі „простанароддзя“. Мяняецца вобразная сістэма. Знікае аднастайная, адцягненая метафарычная структура французскага стылю. Народнасць Пушкіна нельга змешваць з простанароднасцю пісьменніка тыпу Булгарына, Пагодзіна, у якіх, паводле слоў Бялінскага, „рускія асобы ніжэйшых саслоўяў падобны былі да пераапранутых паноў, а паны толькі імёнамі адрозніваліся ад чужаземцаў“. Гэты ілжывы напрамак, не паказваючы сапраўднага народнага жыцця, быў чужы Пушкіну. Для яго народным было ўсё праўдзівае, зразумелае шырокім масам, мастацтва, у якім адлюстроўваецца самае істотнае з жыцця народа.

Творы Пушкіна — гэта неўміручы помнік, да якога ніколі „не зарастёт народная тропа“.

**Ніна Вішнеўская**

## КРЫШЫНКІ МІНУЛАГА

# ЗЭЛЬМАН

Мая нябожчыца бабуля, калі яе хтосьці ўзлаваў, мела звычай гаварыць з дакорам: „Ах ж ты Зэльмане!“ Мяне заўжды цікавіла: хто ж гэта такі Зэльман? Пытаўся я ў бабулі, дык яна, пэўна, сама не ведала, бо адвязвалася ад мяне абы-чым. Слова „Зэльман“ чуў я часам і ад іншых старэйшых людзей. Але іх ужо не адважваўся спытацца: быў я тады яшчэ малы і нясмелы. Зрэшты, гэта ў дзіцячыя гады не была адзіная і найважнейшая мая праблема. З часам пра Зэльмана я зусім забыўся і толькі дзесьці з год таму назад зноў пачуў аб ім. Мая супрацоўніца, жанчына ў сярэднім узросце, аднойчы сказала на сябе: „Ой, якая з мяне дурная Зэльманка!“ На жаль, і яна не магла мне нічога растлумачыць, кім быў Зэльман і якімі дрэннымі ўчынкамі ўпісаўся ён у чалавечую памяць, што яго дагэтуль успамінаюць. Нічога пра яго не ведаючы, я і не спадзяваўся ўжо калі-небудзь што-келечы даведацца. Але, аказваецца, надзеі траціць нельга ніколі.

У пачатках бягучага года давялося мне гартаць сшыткі старога царкоўнага часопіса „Литовския епархиальныя ведомости“, шукаў я ў ім матэрыялы па гісторыі Белавежы, над якой я працую. І, вось, у нумары 4-м ад 1871 г. мне кінуўся ў вочы загаловак „Вечер Зэльмана“ (Из народной памяти об унии)“. Я стаў чытаць і праз некалькі мінут зразумеў, што Зэльман — гэта ўвасабленне групы яўрэяў, якія ў перыяд уніі трымалі цэрквы, здадзеныя ім у арэнду панамі.

Як піша В. Калішэвіч у тым жа артыкуле, яшчэ да пачатку сямідзесятых гадоў XIX ст. (магчыма, што і пазней!) у Бельскім уездзе, асабліва ў ваколіцах Драгічына і Мельніка, пратрымаўся звычай наладжвання мясцовым насельніцтвам гэтак званага „вечара Зэльмана“. Наладжваўся ён у другую ноч Вялікадня і напамінаў тыя даўнія часы. Тады яўрэй-арандатар трымаў у сябе ключ ад храма і адкрываў яго праваслаўным прыхаджанам не столькі з нагоды царкоўнага свята ці па іншай патрэбе, як колькі пасля ўнясення тымі ж прыхаджанамі акрэсленай арандатарам сумы грошай. Часам задавальняўся ён нейкімі падарункамі. Здаралася (нават часта!), што прыхаджане не маглі сабраць адпаведнай сумы. Тады і не атрымлівалі ключа ад царквы. Не памагалі ні настойлівыя і прыніжаныя просьбы, ні слёзы. Таму нічога дзіўнага, што і стаў ён „героем“ народнага звычаю.

Як праходзіў гэты „вечар Зэльмана“? Непадалёк сяла збіраліся мужчыны і жанчыны. Часам далучаліся жыхары суседніх сёлаў. Нейкі час усе стаялі моўчкі, быццам чакаючы штосьці ці кагосьці. Неўзабаве паяўляўся адзін з жыхароў сяла з весткай, што Зэльман (менавіта гэтак нашыя людзі прывыклі называць яўрэя-арандатара) ужо едзе. І праўда, праз некалькі мінут прыязджала на кані чучала, якое ўяўляла яўрэя. У руках яно трымала ключ. Той самы чалавек, які апавяшчаў прыезд Зэльмана, цяпер вельмі сардэчна і лісліва яго вітаў і называў яго „светлым панам“. Усе прысутныя нізка кланяліся чучалу, якое напышліва ехала на кані. Спадарожнічалі гэтаму праслаўляючыя Зэльмана песні, якія працягваліся да позняй ночы. У канцы паяўлялася новае чучала Зэльмана і тады песні былі іншага характару. Каня з Зэльманам накіроўвалі ў другі бок, як найдалей ад людзей. Хтосьці з удзельнікаў вечара пачынаў насміхацца з чучала. Падхоплівалі гэта іншыя. Усе спявалі жартоўныя і абразлівыя песні. На гэтым вечар заканчваўся. Людзі разыходзіліся дамоў.

Наколькі мне вядома, гэты звычай да нашых дзён не захаваўся. Асталося яго рэха ў выслоўі, значэння якога сёння ўжо ніхто не можа растлумачыць.

**Пётр Байко**




Сэрцайка, мне 23 гады, а майму мужу ўжо 35. Тры гады ўжо мінула, як мы пажаніліся. І было нам вельмі добра, цешыла нас таксама дзіцятка наша, пакуль не атрымалі мы новую кватэру. Праўду людзі кажуць, што багаты спаць не можа. Пакуль не мелі мы кватэры і бадзяліся па чужых людзях, ніколі не сварыліся, бо верылі ў нашу лепшую будучыню. І ніколі дагэтуль мне не прыйшло ў галаву, што кепска мець мужа на 12 год старэйшага, а сёння вось я амаль упэўнена, што зрабіла ў сваім жыцці памылку.

Калі мы атрымалі кватэру, то муж мой амаль усяго сябе прысвяціў яе добраўпарадкаванню. Ён яе чысціў, шліфаваў, лакіраваў, нешта прыбіваў і г.д. І ў мяне часамі такое ўражанне, што пакахаў тую кватэру больш, чым мяне і дзіця. Нарэшце мы перабраліся. Думаеш, Сэрцайка, нешта змянілася?! Стала яшчэ горш: тут не ступі, там не пырсні, а там не кінь смяцінку. Але найгоршая сварка ў нас разгарэлася з-за маёй сяброўкі, якая на мяне пакрыўдзілася і сказала, што яе нага ў маім доме не ступіць. А ўся справа ў тым, што яна прыйшла да нас і ўвайшла ў вялікі пакой, не зняўшы з ног туфляў. Было ж яшчэ цёпла, на двары было суха і нідзе яна гэтых туфляў не пабрудзіла, так што я ёй, вядома, дазволіла ўвайсці ў пакой у туфлях, хаця муж запрапанаваў ёй ужо ў дзвярах зняць абутак. Муж мне гэтага не можа дараваць да сёння, а тая мая сяброўка стала яго смяртэльным ворагам. І што горш, гэта не адзіночны выпадак. Толькі хто пазвоніць у нашы дзверы, як мой муж выходзіць на калідор і загадвае там жа разбувацца, а мне сорамна глянуць людзям у вочы.

Сэрцайка, ці правільна робіць мой муж, і ці то не яго старасць вылазіць наверх?

**Ева**

Ева! Тут наверх вылазіць не ўзрост твайго мужа (павер мне, 35 год — гэта яшчэ не старэча!), а яго характар. Ну, і трэба прызнацца, што з выхаваннем у яго не надта. Калі ўжо запрашаеш госця ў хату, то ён твой пан (нават тады, калі курыць смярдзючыя папяросы, якіх не пераносіць гаспадыня дому). А што ўжо гаварыць пра абутак! Калі хто госць, то можа ён таптацца па найцудоўнейшым дыване ў якіх хоча бацінках, а табе да гэтага справы няма. І толькі чалавек, дрэнна выхаваны, можа загадваць госцю знімаць абутак з ног (ды яшчэ ў калідоры, а можа лепш было б, каб яшчэ ў суседа, то напэўна б тады і не ўкралі!)

Вядома, большасць з тваіх гасцей падпарадкуецца вашым хатнім „законам“ і будзе прыносіць у сумках тапачкі. Клапатлівае гэта, дык напэўна знойдуцца і такія, што адвернуцца ад вас. Бо ў сённяшнія часы смешна гэта і прымітыўна. Маю надзею, што хоць муж твой не пазасцілаў дываны нейлонам?! Уяўляю сабе, як выглядаюць у вас прыёмы. Ці на Сільвестра танцавалі вы таксама боса, ці ў нейкіх адкінутых ужо шлёпанцах?! А можа б ты зрабіла нейкія тапачкі, як у каралеўскім замку, якія надзяваюцца на туфлі?! Можа, тады, нарэшце, твой муж угамоніцца і вашы сямейныя адносіны наладзяцца... Шкада толькі цябе: калі твой муж усё так робіць напаказ, дык тапачак табе прыдзецца шыць нямала, бо, напэўна, робіце вялікія прыёмы...

**Сэрцайка**




58

**Кубак,** кубачак — першынство ў справах, працы; купляць — атрымаеш запрашэнне; піць з яго — шчасце ў каханні; разбіць — паспрачаешся з прыяцелем; мыць іх — госці.

**Кузня** — здольнасці весці інтарэсы, прадпрыймальнасць.

**Кульгавы** — няўдачы; самому быць ім — страціш добрую апінію ў людзей.

**Куля,** снарад — неспрыяльнае здарэнне; коцяцца кулі — дрэнныя вынікі; калі трапіць у цябе — хвароба; зямная куля, Зямля — далёкае падарожжа; гарматні снарад — выратуешся з вялікай небяспекі.

**Кум** — засмучанне ў сям'і.

**Куна** — злодзей; злавіць яе жывую — удача, даходлівая справа; застрэліць — вызваліцца ад дакукі.

**Купальны** басейн, лазня — добры стан здароўя.

**Купацца** ў ванне — гвалтоўная хвароба; у рацэ — моц і стойкасць; у ручаі — выздараўленне; на свабодным месцы — багатая жонка або муж; у пакоі — нявернасць; мыліцца падчас купання — дабрабыт; купанне ў гарачай вадзе — прастуда; у адзенні — аслабленне; забрудзіць купель — самому сабе пашкодзіць; бачыць, як купаюцца іншыя — смутак.

**Купец** — павелічэнне маёмасці.

**Купляць** — удзел ва ўрачыстасці; пакупкі — будзь асцярожны.

**Кураняты** — непрыемны візіт і плёткі; квактуха з імі — шматлікая сям'я; купляць іх — многа шчасця.

**Курапатка** — дабрабыт; страляць у яе — цябе ашукаюць; есці — збядненне; у гурце, чарадзе — зманлівае шчасце

**Кур'ер** — хуткае ўзбагачэнне.

**Курка** сядзіць на яйках — здзейсненыя надзеі; з куранятамі — шматлікая сям'я; многа курэй — хатнія клопаты і засмучанні.

**Куртка** — паніжэнне.




### ХАЛОДНЫЯ ЗАКУСКІ

#### „ІКРА“ З ГРЫБОЎ

На 450 г салёных грыбоў трэба ўзяць 1 цыбуліну, 3 сталовыя лыжкі алею, зеляніну, перац, соль.

Грыбы прапусціць праз мясарубку разам з падсмажанай цыбуляй. Дадаць перац і соль, усё дакладна перамяшаць. Падрыхтаваную „ікру“ палажыць горкай у місачку і пасыпаць дробнапасечанай зелянінай.

#### ЯЙКІ, ФАРШЫРАВАНЫЯ ГРЫБАМІ

На 8 яек трэба ўзяць 20 г сушаных баравікоў, 1 цыбуліну, 1 сталовую лыжку растопленага масла, па 5 чайных лыжачак маянезу і смятаны, зеляніну, соль.

Звараныя крутыя яйкі абабраць, пасля чаго зрэзаць нажом тупы канец і выняць жаўткі. Падрыхтаваныя сушаныя грыбы (спачатку перабраць, дакладна памыць і намачыць у халоднай вадзе на 3—4 гадзіны) зварыць, дробна пасячы, падсмажыць, перамяшаць з падсмажанай цыбуляй і жаўткамі, ды пасаліць. Атрыманым такім чынам фаршам напоўніць яйкі. Яйкі палажыць у місачку і накрыць абрэзанымі капелюшамі з бялкоў; пасля гэтага паліць соусам і ўпрыгожыць зелянінай. Соус, якім паліваем яйкі, атрымоўваем, перамешваючы маянез са смятанай.

#### САЛАТА З ГАРОДНІНЫ З КАЎБАСОЙ

На 1—2 бульбіны трэба ўзяць 1 кіслы агурок, 1 яйка, 30 г зялёнага гарошку, 100 г нятлустай каўбасы (могуць быць халодныя сардэлькі), невялікую цыбуліну, 100 г маянезу, зялёную пятрушку ці ўкроп, соль.

Зварануюў мундзірах бульбу ababраць, астудзіць і нарэзаць. Крутыя яйкі абабраць і пасячы. Кіслы агурок і каўбасу нарэзаць даволі дробна, дадаць зялёны гарошак і дробна пасечаную цыбулю. Усе прадукты перамяшаць і заправіць маянезам. Салату палажыць горкай у місачку або малую талерку і ўпрыгожыць зелянінай.

**Гаспадыня**

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



Трэцякласнікі са школы ў Дубічах-Царкоўных са сваёй настаўніцай Міраславай Панфілюк. Яны паказваюць лялькі, з якімі часта выступаюць: у сваім класным тэатры лялек ставяць вядомыя казкі.

Фота Я. Чэрнякевіч

Уладзімір Дубоўка

## ТРЫ БУЛЬБІНКІ — ДЗВЕ СТРАВЫ

### З АПАВЯДАННЯЎ-УСПАМІНАЎ

Трапны жарт, бадзёрасць духу можа памагчы тады, калі часовая нядоля ахіне чалавека...

У маім асабістым жыцці бывалі моманты вельмі добрыя прыгожыя, бывалі і дужа цяжкія, горкія. Я неяк прызвычаіўся быў ніколі не танцаваць ад радасці, а прыглядацца да яе, можа, гэта не сапраўдная радасць, а якое-небудзь ашуканства або падробка. Калі ж з'яўлялася да нас гора, я прыглядаўся таксама, ці няма ў ім дабрага хоць крыху. Быць не можа, так думалася мне, каб гора цалкам было саткана з аднае змрочнасці ды гаркаты. Хоць адна-дзве светлыя нітачкі павінны быць у гэтай тканіне.

І знаходзіліся. Быў адзін такі момант. Прыходжу дадому, а жонка мне ціхенька кажа:

— Засталіся ў нас тры бульбінкі. Больш — анічагуткі.

Сын, маленькі хлопчык, пачуў гэта і дадае:

— Адна цыбулінка яшчэ ёсць у нас!

Я адразу адказваю:

— Гэта ж цуд! Беларусы кажуць, што гора тады, калі ні цыбулькі, ні крышыць у што. А ў нас зараз будуць з усяго гэтага не адна, а дзве стравы!

І пачаў сам гатаваць абед. Адцадзіў адвар ад бульбы, пакрышыў цыбулінку — першая страва. З'елі па бульбіне — другая страва.

Тады мой сын, узяўшы вясёлы тон, дадаў:

— Яшчэ ёсць трэцяя страва — рот прапаласкаць...

Так мы паабедалі. На другі дзень з харчаваннем справа наладзілася, з'явіліся нават і трэція стравы. Так што рот паласкаць перайшло на чацвертую.

## ЯК РЫБУ ЛАВІЛІ... ЛОМАМ

Мяне асабліва здзівіла, калі я трапіў на Далёкі Ўсход, што ва ўсіх вадаёмах, вялікіх і малых, была рыба. Ідзеш тайгою — каля сопкі нейкая калюжына, метраў дзесятак уздоўжкі, метраў пяць-шэсць упоперак. Зірнеш — аж вада кіпіць ад рыбы. Можна рукамі лавіць, а якой пасцілкай — колькі хочаш. Мясцовыя людзі, тубыльцы, нам растлумачылі, што ікру па такіх калюжынах або азярынках разносяць, насяюць качкі. Плаваюць качкі па рацэ. Да іхняга пер'я прыстае ікра. Пералятаюць на якую лясную азярынку, пачынаюць плаваць там — ікрынкі адмываюцца вадой, насяюцца. Вось табе і рыба ў такіх вадаёмах, дзе няма ні вытокі, ні прытокі...

Неяк у 1939 годзе далі нам тэрміновае заданне: закласці ў Новым Бірабіджане штук дванаццаць фундаментаў пад васьмікватэрныя дамы. Чаму тэрмінова — набліжалася зіма. Да маразоў трэба было забетаніраваць усё. А на гатовым фундаменце дом можна ставіць і ў маразы.

Каля нашай пляцоўкі была якраз невялічкая азярынка. Мы да яе і блізка не падыходзілі: не было часу і патрэбы. Але вось адзін наш сталяр, вельмі цікаўны, прайшоў да азярынкі. І што ён там заўважыў — поўна рыбы! Прыбягае да нас і апавяшчае аб гэтым. Пайшлі, зірнулі — праўда! Але часу не было рыбу браць. Узяліся працаваць. А пра тую азярынку не забыліся. Калі зімой нам давялося канчаць новы дом, пастаўлены на нашым фундаменце, той самы зух, які

(Працяг на стар. 10)

Эдзі Агняцвет

## ВОДГУЛЛЕ

Збірала я ўлетку
не толькі праменні,
Не толькі
агеньчыкі
спелых суніц,
А водбліскі рэчкі
і лесу адцені,
Маўклівыя сцежкі
і гул навальніц.

Збірала я
гукі гарачыя горна,
І шолахі лісця,
і звон каласоў.
І там, дзе вятрам
і зарніцам прасторна,
Збірала я
поклічы белых буслоў.

Цяпер
ад сняжынак
увечары светла.
Мяне ж
халады
не застрашаць зімой.
Я слухаю лета,
зялёнае лета —
Прыходзьце,
паслухаем
разам са мной!

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Міхась Застольскі

### МЯДЗВЕДЗЕВА РАДНЯ

Казка

Ішлі па лесе Буры Мядзведзь і Заяц. Глядзяць: на беразе лясной рэчкі, на вярбовай галінцы, Зімародак сядзіць, рыбу ў вадзе выглядае. Вось сарваўся з галінкі, нырнуў — толькі кругі па вадзе пайшлі. Праз момант вынырнуў, зноў на галінку сеў. У дзюбе — рыбка маленькая, з палец-мезенец.

— Па рыбаку і ўлоў, — зарагатаў Мядзведзь. — Ведаеш, касы, хто сапраўдны рыбак? Мой брат — Белы Мядзведзь. Далёка на поўначы жыве ён, рыбу ў моры ловіць. А часам і маржа сабе на абед упалюе.

Ідуць яны далей. Аж бачаць, над галовамі Куніца скача. З галінкі на галінку, з дрэва на дрэва. Убачыла іх — у дупло схавалася. Заяц і кажа:

— Зайздрошчу Куніцы. У яе жыллё цёплае, на высокім дрэве — ніхто не дастане.

Мядзведзь не згадзіўся:

— Падумаеш, дупло! Што гэта за дом?! Цесны, цёмны. А галоўнае — чужы: дзятла прагнала, а сама гаспадыняй стала. Паглядзеў бы ты, касы, які дом у майго брата — Чорнага Мядзведзя. Ён у тайзе жыве, сам сабе жыллё рыхтуе. Знойдзе дрэва з падгнілым ствалом, узлезе вышэй ды прагрызе дупло. Прасторнае, сухое. Там і зімуе. Гудзе сярдзітая завея, мароз люты трашчыць, дрэвы калышуцца. Чорны Мядзведзь быццам у калысцы ляжыць. Сны салодкія сніць.

Тым часам выбраліся яны на лясную паляну. А на той паляне — банкет на ўвесь свет. Старая Курапатка сваю сямейку мурашынымі лічынкамі частуе. Ядуць ды хваляць: смачна!

Мядзведзь і кажа:

— І ахвота ім гэтыя лічынкі па адной збіраць. У індыйскіх джунглях жыве мой трэці брат — Мядзведзь Губач. Цэлы мурашыны статак злізвае ў абед. А то знойдзе бананавае дрэва, выцягне губы ў трубачку ды з такой сілай удыхне паветра, што салодкія бананы самі ляцяць у рот.

Тут Мядзведзь на сухую галіну наступіў. Трэснула яна — як хто з ружжа стрэліў. Непадалёку вавёрка грыбы збірала, на зіму запасалася. Заяц і маргнуць не паспеў, як апынулася яна, спалоханая, на вяршаліне вялікай сасны.

— Ну і жвавая! — пахваліў Заяц. — Лётае па дрэвах, як па зямлі.

— Праўду кажаш, — згадзіўся Мядзведзь. — Мне, старому, цяжка ўзбірацца на дрэва. Ды ёсць у мяне чацвёрты брат, малодшы — Бамбукавы Мядзведзь. Жыве ён у высокіх Гімалайскіх гарах. Кожны дзень залазіць на бамбук, каб паласавацца смачным лісцем. А ствол гладкі, без адзінага сучка. Верхалазу гэтаму, касы, і вавёрка пазайздросціць...

Шмат гадоў сябравалі Заяц з Мядзведзем, а не ведаў, што ў яго такая вялікая радня...

# У НАШАЙ ГРАМАДЦЫ

**Падручнік беларускай мовы для пятага класа**
**Аўтары: Лідзія Гайдук — Мікалай Гайдук**

## БЕЛАЯ РУСЬ

О, мова беларуская! Твой гук заўсёды
Як рэха даўніх дзён.
Ты — мова мірнага, сардэчнага народа,
Ніў, пушчаў перазвон.

Там, дзе славян пануе слова,
Звініш струною жаўруковай,
Духмяная, як лета, мова
Блакітная, як лён.

О, песня беларуская! Ты, як край гэты,
Не можаш слёз суняць,
У табе — напевы курганоў, палеткаў
Бяздольных стогн чуваць.

Яшчэ ты ў забыцці, у ценю.
Калі ж цябе ўзняць з натхненнем,
Свет прывітае з захапленнем,
Бо маеш што сказаць.

О, беларускі люд! Калі міне ўсё гора,
Шчасліваю парой
Пачуецца ў злучаным славянскім хоры
Магутны голас твой.

I будзе твой сардэчны голас,
Як птушак ранніх спеў, вясёлы
I звонкі, быццам шчодры колас
На ніве залатой.

**Віктар Гамуліцкі**
**Пераклад з польскай мовы Максіма Танка**

1. *Якія пачуцці выказвае паэт да беларускага народа? Якую будучыню прарочыць ён беларускаму народу?*
2. *Знайдзіце радкі, у якіх аўтар верша выражае сваё захапленне беларускай мовай. Як вы думаеце, чаму паэт параўноўвае беларускую мову з жаўруковай песняй, блакітным лёнам і духмяным летам?*
3. *Што паэт гаворыць пра беларускія народныя песні?*
4. *Кіруючыся „Правіламі прыгожага чытання і дэкламацыі", навучыцеся па-мастацку чытаць верш і вывучыце яго на памяць.*
5. *Прачытайце словы парамі. Звярніце ўвагу на вымаўленне выдзеленых зычных і на галосныя або ь, якія стаяць пасля іх.*

Бэз — бег, воз — вяз, гара — гіра, вазы — вязі, куна — кіно; полка — полька, мох — мех, нос — нёс, полк — піла, сон — сена, форма — ферма, холад — хімія.

### ЦВЁРДЫЯ, МЯККІЯ І ЗАЦВЯРДЗЕЛЫЯ ЗЫЧНЫЯ

**Зычныя бываюць цвёрдыя і мяккія. Абазначаюцца яны тымі ж самымі літарамі**, балота — білет, **толькі д пры змякчэнні пераходзіць у дз:** малады — моладзь, **а т у ц:** хата — у хаце.

**Зычныя дж, ж, р, ч, ш заўсёды цвёрдыя і не маюць адпаведных мяккіх. Яны называюцца зацвярдзелымі. Да зацвярдзелых належыць таксама ц, калі яно не ўтварылася з т:** цана, цэлы.

**Мяккасць зычных абазначаем мяккім знакам (ь) і літарамі е, ё, і, ю, я:** боль, сена, лён, сіні, Люся.

## ВУЧНЁЎСКАЯ ТВОРЧАСЦЬ

### ДАРАГАЯ „ЗОРКА"!

*Усе мы вывучаем беларускую мову. Любім чытаць „Ніву" і „Зорку". Вельмі нам падабаўся цыкл вершаў Віктара Шведа. Мы вырашылі самі скласці вершы аб зіме. Найлепшыя высылаем Табе.*

*З павагаю*
**вучні пятых класаў Пачатковай школы ў Орлі.**

### ЗІМА

Прыйшла да нас зіма,
Белая, снежная зіма.
Лёдам рэчкі закавала,
Дрэўцы снегам абсыпала.
Дзеці цешацца наўкол,
Бо ім спешна на каток,
Лёд там гладкі,
Нібы ток.

**Аня Шайкоўская**

### ДЗЕД МАРОЗ

Дзед Мароз, дзед Мароз
Прынёс нам падарункаў стос.
Маме боты,
Мне самалёты,
Таце гальштук,
Тані кніжак
Пяць штук.

**Івона Шырэнос**

### ЗІМА

Прыйшла да нас зіма,
Дарогі снегам замяла,
А дзеці ў зімовыя ранкі
Бягом бягуць на санкі.
I не страшны ім мароз,
Што шчыпле за вушы і нос.

**Робэрт Нявінскі**

### ЗІМА

Прыйшла зіма,
Прыйшоў мароз.
У Вані ўжо чырвоны нос.
У дзяцей шчокі пачырванелі,
А снег белы, белы, белы.

**Эва Хурса**

### ЗІМНІЯ КЛОПАТЫ

Вось прыйшла зіма халодная.
Птушачка галодная.
Скача, скача па снягу,
Просіць дзетак даць яду.
Кіньце, дзеткі, крыху збожжа,
Без яго замерзнуць можна.

**Лешак Кацэйка**

### МАРОЗ

Прыйшла зіма.
I снег рассыпала.
Дрэвы пухам прыбрала,
I рэчку лёдам скавала.
Мароз шчыпле за нос.
Малюе вокны ў кветкі.
Настаў вясёлы час —
Гуляе і мароз і дзеткі.

**Агнешка Кольская**

### ЗІМА

Зіма, зіма прыйшла
Радасць дзецям прынясла.
На канькі, на санкі
Бягуць дзеці ранкам.
Лётаюць белыя сняжынкі,
Засыпаюць усе сцяжынкі.
А злосны мароз
Шчыпле нас за нос.

**Ася Шчэпаноўская**

### ЗІМА

Прыйшла зіма марозная і белая.
I радасць чыстую нам прынясла.
У палях свавольна гуляе вецер,
Зіма сцяжыны замяла.
Зямлю пакрыла белым пухам,
Скавала рэчкі і лугі,
На лыжах, санках і каньках
Гуляем мы з сябрамі.

**Мар'юш Галёнка**

### ЗІМА

Завітала да нас зіма
Марозная і снежная.
Выйдзе ж з хаты —
Снегу па калена,
Вуліцы пакрыты
Снежным абрусам,
У лесе елкі прыбрала,
Белыя шапкі ім панакідала.

**Дарота Дзенісюк**

### ЁЛКА

У лесе расла ёлка,
А цяпер стаіць на столку.
У лесе была зялёная,
А у нас — чырвоная.
Прыйшоў дзед Мароз
Падарункаў шмат прынёс.

**Ася Галёнка**

(Працяг са стар. 9)

### ЯК РЫБУ ЛАВІЛІ... ЛОМАМ

першы згледзеў рыбу, узяў лом і выбіў з азярынкі вялікую крыгу лёду. Рахаваў ён так, што амаль уся вада зледзянее, а рыба застанецца на дне. Так і сталася. Пад вывaрачанай крыгай рыба ляжала проста радамі. З аднаго-двух квадратных метраў набралі паўнюткае вядро. Рыбу згатавалі ў вёдрах, са смакам з'елі і юшку. Так, адбіваючы штодня па метру-два лёду, за паўзімы наша брыгада з'ела рыбу з усяе азярынкі. А азярынку ўсё роўна трэба было засыпаць, каб падрыхтаваць добрую пляцоўку пры новых дамах...

## ПАЗНАЁМІМСЯ

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 73, кв. 29. Надзя Бабук, 3 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 73, кв. 4. Лена Маркоўская, 3 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 67, кв. 16. Наташа Шуцікава, 3 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 80, к. 2, кв. 45. Света Таруліна, 3 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Каржа, 10, кв. 3. Іна Ермаловіч, 4 клас.

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

У краму ўваходзіць пакупнік:
— Дайце запалкі, — голасна кажа ён.
— Чаго вы крычыце, я ж не глухая, — звяртае яму ўвагу прадаўшчыца. — Якія? З фільтрам ці без?

* * *

— Тата, скажы, які кароль быў у Францыі ў дванаццатым стагоддзі?
— Паспееш яшчэ даведацца, ты ж яшчэ ў першым класе.
— Тата, не можаш ты мне сказаць? Ты ж ведаеш...
— Адкуль я ведаю, я ж не жыў у Францыі ў дванаццатым стагоддзі!

## АДГАДАНКА



Размалюй карцінку каляровымі алоўкамі.


Адрас рэдакцыі: „Зорка" 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1

З суседскага агародчыка

## ШТО З ВЯРОЎКІНЫМ?

Раптам здарылася неверагоднае — прапаў Вяроўкін. Прыйшлі раніцай у курылку, а яго няма. Усіх гэта вельмі ўзрушыла. Што ж здарылася з чалавекам? Можа, захварэў? Ці любімая бабуля лягла ў бальніцу? Ці сабачку павёў да ветэрынара? Стаім, курым, мяркуем усялякае... Хто ні загляне ў курылку, таксама цікавіцца:

— Што з Вяроўкіным?

Тлумачым, як можам. Пра грып гаворым, пра бабулю, пра сабачку... Што першае на язык патрапіць. Проста дзіву даешся, якія ўсе цікаўныя. Ну, сабралі б па рублю, купілі б кветак, торт ці апельсіны, наведалі б чалавека. Дык не.

Адным словам, некалькі дзён у курылцы толькі і гаварылі пра Вяроўкіна і пра адносіны да яго... А неяк зайшлі ў аддзел і вачам сваім не верым. Божухна! Сядзіць Вяроўкін на сваім рабочым месцы і працуе.

— Што з табой? — цікавімся.

— А нічога, — адказвае Вяроўкін. — Курыць кінуў...

**Сяргей Палікарпаў**

Студэнцкі смех

### МАЛЕНЬКАЕ АПАВЯДАННЕ ПРА ВЯЛІКАЕ КАХАННЕ

Ён любіў яе даўно. Любіў палымяна і маўкліва. Штодзённа сустракаўся і адкрываў у ёй усё новае і новае. Цудоўнае і змястоўнае. Яго сэрца належала ёй, але яна была халодная. Ён аддаваў ёй свае найлепшыя гады, а яна моўчкі прымала яго ахвяры. Яна была прыгожая і строгая, велічная і надзвычайная. Ён ведаў, што яго ўлюбёнасць аднабаковая, што дамагчыся яе кахання немагчыма, ды не мог нічога зрабіць з сабой. Вось так яны і жылі. Ён без узаемнасці закаханы, яна — недасягальна-велічная.

Яе звалі „Анатомія", яго — студэнт Рыгоркін.

**В. Шаўцоў**



Без слоў.



— Нічога не парадзіш. Яны мяне пераканалі, што ён у іх найлепшы механік!

### КЕМЛІВЫ ПАРАБАК

Гаспадар паклікаў свайго новага парабка і загадаў:

— Пайдзі нарві на гародзе рэдзькі.

Той выйшаў і праз некалькі хвілін вярнуўся з пучком у руках.

— Ты што, ёлапень, не разумееш што такое нарваць рэдзькі? Калі я сказаў нарваць рэдзькі, то гэта значыць што ты павінен вырваць яе з зямлі, памыць, парэзаць на скрылёчкі, заліць смятанай і пасыпаць зверху пятрушкай ды кропам...

Гаспадар так разнерваваўся, што захварэў, і паслаў таго ж парабка да лекара. Падвечар парабак увайшоў у спальню і паведаміў:

— Лекара выклікаў, лекі купіў, труну заказаў і магілу выкапаў.

### ДЗЕНЬ АДКРЫТЫХ ДЗВЯРЭЙ

— Бабуля, чаму ў вас дзверы — насцеж?

— Ды я сёння пенсію атрымала, то ўнукі абавязкова па чарзе наведаюцца, — хай хоць дзвярыма часта не грукаюць.

### З НАТАТАК ДОКТАРА ЗНАХАРУКА

„Хворы сцвярджае, што калі ён засынае, дык губляе прытомнасць да таго часу, пакуль не прачнецца".



Стараецца не моргаць: баіцца, што менавіта ў гэты момант яго здымуць з працы.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Англійская сям'я праводзіла свайго сына ў госці да сяброў у Галандыю. Пры гэтым ён атрымаў павучэнне аб тым, што ў гасцях трэба быць ветлівым і шанаваць звычаі галандцаў.

Усё ішло гладка, пакуль юнага англічаніна не спыталі, як яму спадабаўся пададзены на снеданне сыр.

— Па смаку ён мне чымсьці нагадвае мыла, — адказаў юнак і, успомніўшы павучанне бацькоў, дадаў: — Аднак гэта ніколькі не значыць, што я не люблю мыла...

*

— Я толькі ледзь зайшоў у вагон, як у мяне ўкралі чамадан!..

— Зразумела — наш поезд скоры.

### ЦАКЛОННІК

Двое працаўнікоў музея выяўленчага мастацтва размаўляюць між сабою:

— Вось глянь на таго мужчыну. Адразу відаць — паклоннік! Ён сёння ўжо тройчы вяртаецца да нашай залы.

— Ага, я таксама прыкмеціў. Можа яму расказаць пра некаторыя экспанаты?

І падышоўшы да незнаёмца:

— Што вас цікавіць, шаноўны? Можам дапамагчы...

— Ды я, — адказаў той, выціраючы хустачкай спацелы лоб, — ніяк не магу знайсці выйсця з вашага музея...

З „Весніка Задрыповіі"

### АКСЕЛЕРАЦЫЯ

Толькі акселерацыяй змог растлумачыць Штыкевіч цікавы навуковы факт. Калі сам ён упершыню застаўся на другі год у сёмым класе, то сын яго здолеў гэта зрабіць ужо ў трэцім.

### З НАВУКОВАГА ПУНКТУ ГЛЕДЖАННЯ

Недахоп месцаў у лазнях горада Хватаўска тлумачыцца тым, што ад награвання цела расшыраецца.



Без слоў.

### ШЧЫРАЯ РАЗМОВА

З табой я, нібы з родным братам,
Таму і шчыры быць я мушу:
Я ненавіджу бюракрата,
Закаранелага чынушу.

Ды раскусіць яго не проста,
Ён бурную разводзіць дзейнасць,
З табой ён будзе па-сяброўску,
Зычлівы будзе, дабрадзейны.

— Бяда ў вас? Нейкія напасці?
За вас гарой, вядома, станем, —
І ў заключэнне:
— Пачакайце,
Нам трэба вывучыць пытанне.

Міне вясна, надыдзе лета,
Больш цёпла сонца гляне з неба,
І зноў чарга ля кабінета,
Зноў вывучаць пытанне трэба.

Паперы у руках, паперы...
А ў століку ляжаць пячаткі.
Няма такому ў нас даверу,
Збірае хай свае манаткі!

**Мікола Гамолка**





## Курёзы

### АСВОІЎ МАЙСТЭРСТВА НЕАНДЭРТАЛЬЦА

45-гадовы археолаг — аматар Верманінт Гераклін з Амстэрдама навучыўся вырабляць каменныя тапары, наканечнікі для стрэл, іншую зброю і рэчы каменнага веку. А затым употайкі закопваў свае знаходкі. Такім чынам ён „адкрыў" самую вялікую ў Еўропе стаянку паляўнічых на мамантаў. Сваімі „знаходкамі" Гераклін доўга абдурваў нават шматвопытных кіраўнікоў вядомых еўрапейскіх музеяў. Пакуль не сеў на лаву падсудных.

### ЗЛАДЗЕІ-ДЭМАНТАЖНІКІ

Начальнік упраўлення паліцыі горада Камтанісета на востраве Сіцылія, быў падняты ноччу трывожным тэлефонным званком. Званілі з суседняга гарадка Бутэра, які патануў у суцэльным змроку, паколькі невядома куды зніклі правады высокага напружання ў тысячу метраў, па якіх падаваўся ток у Бутэру. Зладзеі, што валодалі лоўкасцю акрабатаў, ухітрыліся зняць з апор вышынёю дзесяць метраў медныя правады агульнай вагой дзевяцьсот кілаграмаў.





**Калі ваўкі сытыя і авечкі цэлыя, значыць, паменшала зайцаў.**